# НА АСНОВЕ ЎСТОЙЛІВАГА ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЯ—ДА ЯКАСНАГА ПАД'ЁМУ КАЛГАСНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

## АБ СТВАРЭНЬНІ УСТОЙЛІВАГА ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЯ КАЛГАСАЎ

*(Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў СССР)*

У важнейшых сельскагаспадарчых раёнах СССР калектывізацыя ў асноўным закончана. Калгаснае сялянства ў гэтых раёнах сканцэтравала ў сваім скарыстаньні 80—90 проц. усёй дзяржаўнай зямлі, якая знаходзілася раней у аднаасобным карыстаньні, і тым самым наўзаўсёды пакончыла з бічом аднаасобнай гаспадаркі—цераспалосіцай, далёказямельлем і раздробненасьцю зямельных вучасткаў. Гэта дае магчымасьць цяпер на падставе ўзрастаючай мэханізацыі стварыць на землях, прадастаўленых рабоча-сялянскай дзяржавай у карыстаньне сялянства, устойлівую і культурную гаспадарку, шляхам рашучага паляпшэньня апрацоўкі палёў, барацьбы з іх засьмечанасьцю, устанаўленьня севазваротаў і ўнясеньня ўгнаеньняў. Між тым на мясцох адзначаюцца шматлікія факты адрэзкі зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні калгасаў, для саўгасаў; самавольнай зьмены мясцовымі органамі ўлады граніц паміж калгасамі, шляхам іх узбуйненьня або разбуйненьня; адрэзкі зямель ад калгасаў у сувязі з выхадам асобных членаў са складу калгасаў і перадзелу зямлі паміж паасобнымі калгасамі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляюць:

1. Пры захаваньні непахіснасьці ўласнасьці рабоча-сялянскай дзяржавы на зямлю, замацаваць за кожным калгасам зямлю, якая знаходзіцца ў яго працоўным карыстаньні ў існуючых зараз граніцах, забараніўшы ўсякія перадзелы.

2. Для вырашэньня зямельных спрэчак і ўсіх пытаньняў, зьвязаных з землякарыстаньнем калгасаў, стварыць раённыя зямельныя камісіі пад старшынствам загадчыка райза ў складзе дырэктара МТС, раённага агранома і двух старшынь калгасаў.

Такія-ж камісіі стварыць у абласных, краявых і рэспубліканскіх цэнтрах. Стварыць пры Наркамземе СССР вышэйшую зямельную камісію СССР і РСФСР пад старшынствам народнага камісара земляробства СССР. Склад раённых, абласных і краявых зямельных камісій зацьвярджаецца прэзыдыумамі адпаведных выканкомаў.

Склад рэспубліканскіх камісій зацьвярджаецца прэзыдыумамі ЦВК саюзных рэспублік, а вышэйшая зямельная камісія—прэзыдыумам ЦВК СССР.

Заўвага: Пастанова ніжэйшай зямельнай камісіі, нездаволенай стараной можа быць абскарджана ў вышэйшую камісію.

3. Забараніць мясцовым органам улады, надалей праводзіць якія-б там ні было адрэзкі земляў, якія знаходзяцца ў карыстаньні калгагаў, саўгасаў і капгасаў без асобнай пастановы ў кожным паасобным выпадку вышэйшай зямельнай камісіі.

4. Забараніць раённым органам улады праводзіць адрэзкі земляў ад адных калгасаў з перадачай іх у карыстаньне другім калгасам. Зьмена граніц калгасаў у сувязі з іх аб'яднаньнем і разбуйненьнем дапускаецца толькі пры згодзе ня менш трох чвэртак членаў калгасаў, якія аб'ядноюцца або разбуйняюцца і пасьля зацьверджаньня ў кожным паасобным выпадку абласной або краявой зямельнай камісіяй.

5. Зьмена граніц і абмен земляў паміж калгасамі ў мэтах зьнішчэньня цераспалосіцы і далёказямельля можа праводзіцца толькі паводле пастановы раённых зямельных камісій. У выпадку, калі адзін калгас перадае другому на падставе пастановы раённай зямельнай камісіі зямлю, якую ён палепшыў шляхам раскарчоўкі, мэліярацыі, застасаваньня ўгнаеньняў і г. д., дык калгас, які атрымаў зямлю ў карыстаньне, абавязан вярнуць зробленыя затраты.

6. Граніцы землякарыстаньня калгасаў ня могуць зьмяняцца ў сувязі з выхадамі паасобных членаў калгасаў. Запрапанаваць мясцовым органам улады строга прытрымлівацца статуту с.-г. арцелі, згодна якога вышаўшыя з калгасаў надзяляюцца зямлёю толькі з свабодных дзяржаўных зямельных фондаў, але ні ў якім выпадку не за кошт фактычнага землякарыстаньня калгасу.

7. Прырэзка зямель калгасам у сувязі з уступленьнем у калгас аднаасобнікаў праводзіцца ў раней устаноўленым парадку сельсаветам за кошт аднаасобнага землякарыстаньня.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР
**М. Калінін.**

Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР
**В. Молатаў (Скрабін).**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР
**А. Енукідзе.**

3 верасьня 1932 г.
Масква, Крэмль.

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ШЛЯХІ
# Калектывізацыі

18
1932
ВЕРАСЕНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

ЗЬМЕСТ



## ДА РАБОЧЫХ, РАБОТНІЦ, СПЭЦЫЯЛІСТАЎ, СЛУЖАЧЫХ ЛЕНІНГРАДЗКІХ ЗАВОДАЎ, ДА ЎСІХ РАБОЧЫХ, КАЛГАСЬНІКАЎ, СЛУЖАЧЫХ, ПРАЦОЎНЫХ АДНААСОБНІКАЎ СЯЛЯН

### (З адкрытага ліста Ленінградзкіх рабочых)

**Баявыя таварышы!**

Набліжаецца XV гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гераічнай барацьбой камуністычнай партыі, ва ўзброеным паўстаньні рабочых і салдат, у грымотах гарматных залпаў „Авроры" перамагла сацыялістычная рэвалюцыя на берагох Нявы, у горадзе Леніна.

Якія блізкія і жывыя непаўторныя дні Кастрычніцкай рэвалюцыі! Ленінград захаваў у рабочых кварталах, на пляцох, набережных вуліцах, мастох, у палацах гарачыя сьляды 1917 году,—гэтага незабыўнага чырвонага году.

15 год над горадам разьвяваецца горда чырвоны сьцяг сацыялістычнай рэвалюцыі, і зараз, як тады—25 кастрычніка, мы згуртаваны вакол партыі і яе кіраўніцтва; і цяпер, як 15 год назад, мы, рабочыя Ленінграда, стаім на перадавых пазыцыях пралетарскай рэвалюцыі. У 1917 годзе мы ўзбройвалі рэвалюцыю вінтоўкамі і кулямётамі; цяпер мы ўзбройваем краіну машынамі. Няма такой буйнай будоўлі ў Саюзе, дзе-б ня было нашых машын.

**Таварышы!**

У 1917 годзе пралетарыят нашай краіны, апіраючыся на беднейшае сялянства, узяў уладу і адкрыў новую эпоху ў гісторыі чалавецтва. Мы паднялі рэвалюцыйны сьцяг эксплёатаваных, прыгнечаных, абяздоленых усяго сьвету і трымаем яго высока над зямной куляй.

Вырасьлі за гэтыя гады і ўмацаваліся рэвалюцыйныя сілы міжнароднага пралетарыяту. Вялізэзна вырасла магутнасьць нашай сацыялістычнай бацькаўшчыны. Бо за гэтыя гады мы верна захоўвалі і выконвалі наказы Леніна. Партыя ўмацоўвала саюз рабочае клясы з працоўным сялянствам. Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна мы вырашылі самую важную, цяжкую і складаную задачу пралетарскай рэвалюцыі—пераробку дробнай сялянскай гаспадаркі на сацыялістычны лад.

Апіраючыся на бедняка, пралетарыят узяў уладу ў Кастрычніку; моцна апіраючыся на беднату, у цесным саюзе з серадняком, у барацьбе з кулаком мы аднавілі прамысловасьць, прыступілі да яе рэканструкцыі. Моцна апіраючыся на калгасьніка—на ўчарашніх беднякоў і серадняков—аднаасобнікаў, ажыцьцяўляючы ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі, мы ўступаем у новы этап рэвалюцыі, у другую пяцігодку—пяцігодку ліквідацыі клясаў наогул і пабудаваньня сацыялістычнага грамадзтва ў нашай краіне.

Краіна наша выканала і другі наказ Леніна: - мы пабудавалі і будуем буйную прамысловасьць, узброеную апошнімі дасягненьнямі тэхнікі. Паглядзеце на нашы сацыялістычныя заводы, фабрыкі, лябораторыі, навукова-дасьледчыя інстытуты, новыя гарады, рабочыя пасёлкі! Як далёка мы пашлі ўперад ад старой царскай Расіі

Ленінград выканаў пяцігодку за тры гады. Паводле пяцігадовага пляну, зацьверджанага V зьездам саветаў, ленінградзкая прамысловасьць павінна была ў 1932—33 годзе выпусьціць прадукцыі на 3 440 млн. р. Але ўжо ў 1931 годзе ленінградзкая прамысловасьць выпусьціла прадукцыі звыш 3.460 млн. руб.

Нашы заводы—на поўным ходу. А побач з намі, праз граніцу, сусьветны эканамічны крызіс скоўвае прадпрыемствы капіталістаў. Лепшыя судны стаяць бяз справы ў заміраючых гандлёвых партох, а на нашых вэрфях стаіць няспынны шум пнэўматычных малаткоў пры заклёпцы морскіх лесавозаў, цёплаходаў, якія зараз будуюцца. Электрычныя станцыі капіталістычных краін зьмяншаюць сваю нагрузку, а на нашых станцыях ідзе бязупыннае выпрабаваньне новых турбін, электраматораў. Волхаў, Дняпро, Сьвір, Волга—якія вялізарныя прыродныя сілы рэвалюцыя ператварае ў электраэнэргію!

Краіна за гэтыя гады з посьпехам змагалася за максымальнае падаўжэньне перадышкі. На нашых граніцах пануе мір таксама і таму, што буйная прамысловасьць, якую мы пабудавалі і будуем—зарука абараназдольнасьці краіны. Крыніцай многіх нашых цяжкасьцяй зьяўляюцца пагрозы імпэрыялістаў, якія рыхтуюцца напасьці на нашу сацыялістычную бацькаўшчыну. Нашы заводы: крэпасьць абараназдольнасьці краіны!

Таварышы! Мы з вамі гаспадары і вяршыцелі лёсаў аднэй шостай часткі земнай кулі. З баямі, цяжкасьцямі, з вялікім напружаньнем сіл мы ўсяго гэтага дасягнулі. Краіна акружана ворагамі. Ніколі ні адна вялікая справа не абыходзілася бяз цяжкасьцяй. А мы-ж будуем сацыялізм, будуем новае грамадзтва, новыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Мы будуем новы сьвет, новае сацыялістычнае жыцьцё для рабочых і сялян.

Так, у нас ёсьць яшчэ свае вялікія цяжкасьці. Клясавая барацьба яшчэ ня скончана. Кулак падсьцерагае, ён ня выходзіць са сцэны бяз бою. Ён зараз прабуе раскрадваць наша дабро. Рэшткі кулацтва пасягаюць на аснову нашага ладу—на сьвяшчэнную і недатыкальную грамадзкую ўласнасьць. Мы, з другога боку, яшчэ не навучыліся як належыць кіраваць прадпрыемствамі, культурна працаваць. Мы яшчэ не навучыліся як належыць плянаваць і выконваць пляны.

Але ці нам, штурмуючым неба, ці нам, ударнай брыгадзе сусьветнага пралетарыяту паддавацца цяжкасьцям! Ці нам, якія бралі Перакоп, якія прагналі Юдзеніча з прадмесьцяў Ленінграда, міжнародныя імпэрыялістычныя арміі—з межаў краіны, якія стварылі новую ленінградзкую прамысловасьць, якія будуюць Днепрабуд, Магнітагорск, Кузьнецк, якія перарабляюць аблічча краіны, ці—нам апускаць рукі перад цяжкасьцямі.

Не, тысячу раз не! Шчыльней шарэнгі, баявыя таварышы! Перамаганьне цяжкасьцяй залежыць ад нас саміх!

Напярэдадні слаўнай гадавіны Кастрычніка мы заклікаем усіх працоўных Савецкага Саюзу, да новага ўздыму сацыялістычнага спаборніцтва да новага ўзьлёту ініцыятыўнай і творчай работы, да рашучай барацьбы за перамаганьне цяжкасьцяй, за выкананьне прамфінпляну.

Мы, у сувязі з гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі, бярэм на сябе канкрэтныя абавязацельствы, рэалізацыя якіх павінна забясьпечыць выкананьне пляну, паляпшэньне абслугоўваньня працоўных, перамаганьне цяжкасьцяй. Кожны ленінградзкі завод бярэ на сябе канкрэтныя абавязацельствы, якія будуць апублікоўвацца ў друку. І ў дзень гадавіны Кастрычніка няхай краіна праверыць, хто стрымаў сваё бальшавіцкае слова!

Асобна мы зварочваемся да рабочых заводаў чорнай мэталюргіі і да вуглякопаў Данбасу.

**Пралетары Данбасу!** Нашы топкі чакаюць вугалю. Даволі таптацца на месцы! Ленінградзкія пралетары, працуючыя ў Данбасе, ня відаць вашай барацьбы за прамфінплян! Сустракайце XV гадавіну Кастрычніка выкананьнем пляну вугляздабычы!

**Мэталюргі Поўдню і Ўралу!** Ад вас залежыць выкананьне пяцігодкі за чатыры гады. Ад поўнага ходу вашых домнаў і мартэнаў залежыць бесьперабойная работа нашых варштатаў. Са свайго боку мы абавязваемся датэрмінова выканаць вашы заказы. Змагайцеся за пяршынства на ўсесаюзным спаборніцтве домнаў!

**Чыгуначнікі!** Ваш абавязак—сваячасова дастаўляць заводам сырэц і апал,—новым гігантам сацыялістычнай індустрыі—лес і будаўнічыя матар'ялы, рабочым—хлеб і харчовыя грузы, вёсцы—тавары і сельскагаспадарчыя машыны. Вышэй тэмпы пагрузкі. У баявую гатоўнасьць паравозны і вагонны парк, у баявую гатоўнасьць чыгуначныя магістралі! Выкананьне плянаў перавозак—лепшая падрыхтоўка да Кастрычніка.

Абавязацельствы заводаў ня будуць поўнацэнны без канкрэтнай барацьбы за павялічэньне выпуску прадметаў шырокага спажываньня для вёскі. Уся наша пралетарская ўвага, наша брацкая дапамога—калгасам, калгасьнікам і калгасьніцам! Мы на ленінградзкіх заводах ня толькі выпускалі першыя ў Саюзе трактары, ня толькі маторы для камбайнаў, але і патэльні, завесы для дзьвярэй, вілкі, і інш. прадметы шырокага ўжытку, каб усебакова задавальняць патрэбы калгасьнікаў і працоўных сялян—аднаасобнікаў—заўтрашніх калгасьнікаў.

**Калгасьнікі і калгасьніцы!** Замацоўвайце перамогі сацыялістычнага земляробства. Змагайцеся са стратамі! Кожны страчаны кілёграм хлеба зьмяншае даходнасьць калгасу і б'е па бюджэце калгасьніка. Умацоўвайце калгасы! Памнажайце харчовыя рэсурсы краіны!

**Прафсаюзныя работнікі, савецкія каапэратары!** Арганізуйце і пашырайце харчовыя базы на кожным заводзе. Арганізуйце самазагатоўкі. Вазьмеце на сябе канкрэтныя абавязацельствы: палепшыць забесьпячэньне рабочых, і выканайце яго да XV гадавіны.

**Чырвонаармейцы, лётнікі, чырвонафлётцы!** Узьнімайце ўзровень сваёй баявой падрыхтоўкі: вучэцеся трапна страляць і аўладайце тэхнікай абароны краіны!

**Таварышы!**

На перадкастрычніцкім VI зьезьдзе камуністычнай партыі, у жніўні 1917 году, тав. Сталін гаварыў: „Мы—самая перадавая часьць пралетарыяту, мы нясем адказнасьць за ўсю рэвалюцыю“. Праз 3 месяцы, у кастрычніку, бальшавікі даказалі, як яны ўмеюць адказваць за рэвалюцыю!

Мы цяпер адказваем за сусьветную рэвалюцыю, мы—ударная брыгада міжнароднага пралетарыяту.

Рыхтуйцеся-ж да XV гадавіны Кастрычніка так, каб сусьветны пралетарыят, гледзячы на нас, зноў і зноў сказаў: „Вось ён, мой перадавы атрад, вось яна, мая ўдарная брыгада, вось яна, мая рабочая

ўлада, вось яна, мая бацькаўшчына,—яны робяць сваю справу, нашу справу, добра,—падтрымаем іх супроць капіталістаў і раздуем справу сусьветнай рэвалюцыі!“

Уперад, баявыя таварышы! Вышэй сьцяг Кастрычніка!

За выкананьне сваіх абавязацельстваў, за выкананьне прамфінпляну, за культурна-тэхнічнае кіраўніцтва прадпрыемствамі!

За ўмацаваньне калгасаў, за бальшавіцкую ўборку і асеньнюю сяўбу!

За фарсаваны выпуск прадметаў шырокага спажываньня і разгортваньне савецкага гандлю.

За пашырэньне харчовай базы заводаў і жыльлёвага будаўніцтва. За выкананьне пяцігодкі за 4 гады.

За ўвагу да канкрэтных патрэб жывога чалавека—працоўнага. Стойце непахісна на варце сацыялістычнай уласнасьці.

За партыю бальшавікоў, за яе цэнтральны камітэт на чале з тав. **Сталіным!**

**Уперад, да сусьветнага Кастрычніка!**

Рабочыя ленінградзкіх заводаў: **„Красный Путиловец“, Электросила“, „Красный Выборжец“, „Балтийский Судостроительный завод им. Марти“, „Большевик“, завод им. Сталина „Скороход“, ф-ка ім. Валадарскага, завод „Красный Гвоздильщик“.**

# У адказ на заклік рабочых горада Леніна

*(З адозвы калгасьнікаў калгаса „Камінтэрн 2-гі“, Дзяржынскага раёна)*

Мы стаім на парозе XV гадавіны Кастрычніка. Ленінградзкія пралетары,—авангардны атрад Кастрычнікавай рэвалюцыі, зьвярнуліся да ўсіх рабочых, спэцыялістаў, калгасьнікаў, чырвонаармейцаў і ўсіх працоўных СССР з баявым заклікам:

**„Да новага ўздыму сацыялістычнага спаборніцтва, да новага ўзьлёту ініцыятывы і творчай работы, да рашучай барацьбы за перамаганьне цяжкасьцяй і выкананьне прамфінпляну“.**

Нас, калгасьнікаў і калгасьніц ленінградзкія таварышы заклікаюць да замацаваньня перамог сацыялістычнага земляробства ў барацьбе за бальшавіцкую ўборку і асеньнюю сяўбу, за далейшае арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў, за павялічэньне прадуктовых рэсурсаў у краіне і разгортваньне калгаснага гандлю.

Не прайшло яшчэ двух месяцаў з таго часу, як працоўныя БССР адсьвяткавалі 12 год з дня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Нам працоўным БССР і асабліва нашага прымежнага Дзяржынскага раёну прышлося спрабаваць усе „прелести“ нямецкай і польскай акупацыі: рабунак, пажары, расстрэлы і катаваньні лепшых прадстаўнікоў пралетарыяту і рэвалюцыйнага сялянства, зруйнаваньне нашых фабрык і заводаў, чыгуначных вузлоў, вёсак і гарадоў. Нам засталіся руіны. І толькі ў 1920 годзе пры дапамозе гераічнай Чырвонай арміі, усяго пралетарыяту СССР, працоўныя Беларусі вызваліліся ад белапалякаў і разам з імі ад „свае“ беларускае буржуазіі, якая прадавала рабочых і сялян, лізала бот нямецкаму кайзэру, польскаму маршалку для таго, каб з іх дапамогай расправіцца з рэвалюцыйным рухам мас у Беларусі.

З таго часу прайшло толькі 12 год. Як шмат чаго зроблена за гэты час. Як не пазнаць стала БССР. **У мінулым жабрацкая, лапцюжная, няпісьменная паўкалёнія царскай Расіі, разбураная нямецкімі і белапольскімі акупантамі,** гіганцкімі крокамі рухаецца па шляху да сацыялізму, ператвараецца ў краіну індустрыяльна-калгасную.

**На прыкладзе нашага раёну, нашага калгасу, асабліва яскрава бачны перамогі генэральнай лініі партыі, посьпехі правядзеньня нацыяльнай палітыкі.**

Наш Дзяржынскі раён з большасьцю польскага насельніцтва рэарганізован у нацыянальны польскі раён. **Якія дасягненьні ён мае.**

У нас звыш 60 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасах. Мы маем у раёне 8 саўгасаў, дзьве машына-трактарныя станцыі (зараз арганізуем трэцюю МТС). Маем 89 школ, з якіх 7 сямігодак, рабфак, пэдкурсы, арганізуем жывёлагадоўчы тэхнікум. У калгасах і саўгасах арганізаваны 104 дзіцячых пляцоўкі і ясьлі. Працуюць 8 кіно-перасовак і стацыянарнае гукавое кіно. Мы маем у раёне дзьве друкаваныя газэты, адна з іх на польскай мове. **Наш раён ніколі ня бачыў такога росквіту ні эканамічнага, ні культурнага. У школах, клюбах, ясьлях работа праводзіцца на нашай роднай мове.**

Наш польскі нацыянальны калгас **„Камінтэрн 2-гі“**. аб'ядноючы 160 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, пад кіраўніцтвам партыі дабіўся вялізарных посьпехаў: з 1 тыс. 360 **га** ў мінулым годзе пасеўная плошча вырасла ў гэтым годзе да 1 тыс. 603 **га**, у параўнаньні з мінулым годам мы маем падваеньне ўраджайнасьці жыта, значна павысілася ўраджайнасьць бульбы і іншых культур. Мы маем малочна-таварную фэрму ў 426 галоў, племянную каняфэрму 96 галоў. Акуратна выконваючы дзяржаўныя абавязацельствы па здачы таварнай прадукцыі, мы праз калгасны базар толькі за тры месяцы рэалізавалі мяса, малака, гародніны на 12 тыс. 800 руб., з якіх авансамі раздалі калгасьнікам 9 тыс. руб. **У выніку нашага росту паляпшаецца і матар'яльнае становішча калгасьнікаў.** Замест двух **кг** зернавых на працадзень у мінулым годзе, у гэтым годзе калгасьнік атрымае па разьмеркаваньні ўраджаю ня менш трох **кг** і замест 10-ці кап. грашыма—ня менш аднаго рубля. У нашым калгасе мы з дапамогай дзяржавы арганізавалі двое дзіцячых ясьляй, два дзіцячых сады, сталоўку, маем дзьве школы, дзе вучацца нашы дзеці на роднай мове.

## Гэта ў нас у Савецкай Беларусі.

Але на адлегласьці некалькіх кілёмэтраў ад нас за польскім кардонам, Заходняя Беларусь яшчэ і сёньня стогне пад ігам польскага імпэрыялізма. Крызіс капіталізма і эксплёататарская каленіяльная палітыка польскага фашызма, ператварае ў жабракоў масы працоўных Заходняй Беларусі. **Гаснуць трубы капіталістычных прадпрыемстваў. Катастрафічнае скарачэньне пасеўных плошчаў, зварот да сох і, амаль што поўнае спыненьне вытворчасьці сельскагаспадарчых машын—вось становішча сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі ў Польшчы. Голад, самагубствы, экзэкуцыі, турмы—вось лёс рабочага і селяніна фашысцкай Польшчы. Поўны разгром беларускай**

**школы, калёнізатарскі рабунак „акраін“, нацыянальны прыгнёт, асадніцтва „на крэсах“—вось „нацыянальная палітыка“ пілсудчыкаў.**

І зараз на парозе 15-й гадавіны Кастрычніка, падагульваючы пройдзены намі шлях, параўноўваючы наша становішча з тым беспрасьветным заняпадам, голадам, разгулам тэрора, які пануе ў нашых суседзяй—Польшчы і Заходняй Беларусі, з усёй яскравасьцю бачны нашы дасягненьні, якіх мы дабіліся пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі на чале з тав. **Сталіным.**

**Нашы абавязацельствы:**

**Далучаючыся да голасу Ленінградзкіх таварышоў, мы бярэм на сябе ніжэйнаступныя канкрэтныя абавязацельствы:**

1. Закончыць уборку ўсіх зернавых культур да 10-га верасьня. Абмалот заскірдованага хлеба закончыць да 15-га верасьня, а ўсяго астатняга—не пазьней 1-га лістапада. **План збожжазагатовак у 26 тон выканаць да 15-га верасьня. Вылучыць адну тону азімага жыта для аказаньня сацыялістычнай узаемадапамогі калгасам у правядзеньні асеньняй сяўбы.**

2. Уборку бульбы з абавязковым пераўзорваньнем правесьці ў 20 дзён, пачаўшы яе 10 верасьня. **Дзяржаўны плян загатовак бульбы ў 110 тон, выканаць да 1-га верасьня, высунуўшы сустрэчны ў 10 тон.**

3. **Сяўбу азімых на плошчы 600 га закончыць да 15 верасьня.** Для ўзьняцьця ўраджайнасьці азімых правесьці наступныя мерапрыемствы: 60 га засеяць па пераворанаму тры разы папару; унесьці 16 тон фасфарытных угнаеньняў пад азімыя; правесьці поўную ачыстку і пратручваньне насеньня; засеяць гатунковым насеньнем увесь клін азімай пшаніцы і 15 проц. жыта. На 35 проц. засеянай плошчы вытварыць радавы пасеў.

4. Да 15 лістапада засіласаваць 750 тон сіласу.

5. **Да 1 кастрычніка выканаць гадавы плян камплектаваньня каня-фэрмы.** Да канца году па пляне ўкамплектаваць МТФ і давесьці пагалоўе сьвіней да 60 штук.

6. Рэалізаваць праз калгасныя базары і ларкі мяса, малочных прадуктаў, гародніны і бульбы ня менш чым на 30 тыс. рублёў да канца года.

7. **У мэтах барацьбы з хішчэньнямі наладзіць улік і справаздачу ў калгасе, устанавіць пяцідзённую справаздачнасьць брыгадзіраў перад праўленьнем, ліквідаваўшы абязьлічку ў справе хаваньня і выдаткаваньня збожжа, прадуктаў і фуражу.**

8. Да 15-га лістапада пасадзіць сад на плошчы 14 га.

9. Арганізаваць у калгасе два гурткі па аўладаньні тэхнікай каняводатва і жывёлаводзтва. Арганізаваць гурток **вайсковых ведаў.**

Разгарнуць шырока спаборніцтва паміж калгасьнікамі і брыгадамі на пасьпяховае выкананьне гэтых самаабавязацельстваў, заключыўшы сацдагаворы паміж брыгадамі і калгасьнікамі. Для прэміяваньня лепшых брыгад і калгасьнікаў у барацьбе за ажыцьцяўленьне гэтых самабавязацельстваў, вылучыць прэміяльны фонд у 1 тыс. руб. Прэміяваньне правесьці ў час сьвяткаваньня 15-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі.

**Збожжазагатоўкі ў гэтым годзе значна паменшаны. Гэта дае поўную магчымасьць калгасам, беднякам і сераднякам-аднаасобнікам датэрмінова выканаць плян. Таму мы заклікаем калгасы, калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў выканаць гадавы плян збожжазагатовак да 15-й гадавіны Кастрычніка.**

**Мы заклікаем усіх калгасьнікаў БССР, працоўных аднаасобнікаў узяць на сябе, па нашым прыкладзе, канкрэтныя самаабавязацельствы ў барацьбе за плян 4-га заключнага году пяцігодкі з тым, каб да 15-й гадавіны Кастрычніка рапартаваць аб перамогах.**

**Калгасьнікі калгасу „Камінтэрн 2-гі“, Дзяржынскага раёну.**



Электрыфікаванае гумно ў калгасе імя Леніна, Аршанскага раёна.

# АДКАЗАЦЬ РАБОЧЫМ ГОРАДУ ЛЕНІНА ЎЗМАЦНЕНЬНЕМ БАРАЦЬБЫ ЗА ВЫКАНАНЬНЕ ПЛЯНУ ЗБОЖЖАЗАГАТОВАК

## Перадавікі загатовак

Калгасы Бабаўнянскага сельсавету ідуць у першых радох здатчыкаў збожжа дзяржаве. Рад калгасаў перавыканалі гадавы плян хлебазагатовак.

Так, калгас „На варце“ здаў збожжа 7,7 тон і гэтым выканаў гадавы плян на 105 проц.

Калгас „Ільліч“, Бабаўнянскага сельсавету таксама пасьпяхова здае свае лішкі дзяржаве. Яшчэ да 20 жніўня здаў 5,3 тоны і выканаў гадавы плян на 51 проц.

Калгас „Кім“ да 20 жніўня выканаў гадавы плян здачы (продажу) збожжазагатовак дзяржаве на 65 проц. здаўшы 13 *цнт* збожжа.

**К. Г.**

## Узор бальшавіцкай барацьбы за хлеб

(*Клімавіцкі раён*)

Калгас „Бальшавік Беларусі“, Раднянскага сельсавету адзін з передавых у раёне па выкананьні гаспадарча-палітычных кампаній. Калгас за добрыя ўзоры ў правядзеньні веснавой пасеўкампаніі і разгортваньне нізавога друку прэміраваны.

Калгас „Бальшавік Беларусі“, закончыўшы пасьпяхова ўборку ўраджаю, узорна распачаў загатоўчую кампанію. Пад штодзенным і канкрэтным кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі, разгортваючы масавую работу вакол апошніх пастаноў партыі і ўраду сярод калгасьнікаў, калгас „Бальшавік Беларусі“ выканаў плян збожжазагатовак на 110 проц.

Бальшавіцкія ўзоры барацьбы за хлеб паказвае калгас „Перамога“, Гусарскага сельсавету. Зараз калгас плян па збожжазагатоўках выканаў на 100 проц. і распачаў масавую сяўбу азімых. Ужо засеяна 45 *га*.

Адстаючыя калгасы па загатоўках у Клімавіцкім раёне павінны раўняцца па ўдарніках збожжазагатоўчага фронту.

**П. Кавалёў.**

## Калгасы Жыткавіцкага раёну выканалі гадавы плян

**ЦК КП(б)Б—тав. ГІКАЛО.**
**СНК БССР—тав. ГАЛАДЗЕДУ.**
**Газэтам—„Зьвязда“ і „Савецкая Беларусь“.**

**Пад непасрэдным кіраўніцтвам раённай партыйнай арганізацыі і РВК, ажыцьцяўляючы рашэньні ЦК КП(б)Б і СНК БССР, калгасы Жыткавіцкага раёну гадавы плян збожжазагатовак выканалі на 109,5 проц.**

**Сакратар РК КП(б)Б БАГДАНАЎ.**
**Старшыня РВК БУДЗЬКО.**
**Загатзерно КІСЯЛЁЎ.**



Выгляд калгаснага поля калгасу імя Леніна, Аршанскага раёну.

# ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ 1933 г.

## Баявая задача калгасаў

Калгасы і ўся сацыялістычная гаспадарка ў цэлым ніяк ня могуць мірыцца з тым ураджаем, які атрымоўваецца ў сучасны момант з нашых палёў.

Перад намі стала неадкладная задача—атрымаць двайны ўраджай супроць таго, што мы мелі да гэтага часу. Ніякімі 10—15 проц. павышэньня ўраджайнасьці мы абмежавацца ня можам, у сувязі з бурна разьвіваючайся індустрыялізацыяй краіны і велізарным ростам патрэбнасьці.

У барацьбе за двайны ўраджай павінны быць скарыстаны ўсе магчымасьці, усе сродкі, якія мае сацыялістычная сельская гаспадарка. Да ліку галоўнейшых з іх адносіцца зяблевае ворыва. Зяблевае ворыва—гэта адно з першых мерапрыемстваў, якое падлягае ажыцьцяўленьню ў кожным калгасе. Навукова-дасьледчыя работы даўно ўжо падцьвердзілі велізарнае значэньне зяблевага ворыва.

Энгельгардаўская і Спаская дасьледчыя станцыі па зябі атрымалі ў сярэднім павышэньне ўраджаю супроць веснавога ворыва ў 1 **цнт на га**, Саратаўская—1,5 **цнт на га**, Кастычоўская—2 **цнт на га**, Лівенскае вопытнае поле—4,5 **цнт на га** і Варонеская вопытная станцыя—2,1 **цнт на га**.

Наша агранамічная армія не арганізуе масавага наступу на гэтым фронце. Дзе вынікі падрыхтоўкі да гэтай важнейшай справы? Дзе мабілізаваная актыўнасьць калгасьнікаў, якая павінна арганізаваць зяб зараз-жа пасьля ўборкі? Агранамічная частка кіраўніцтва калгасамі стаіць пакуль што ў баку. Такія пасыўныя адносіны да арганізацыі зяблевага ворыва з боку агранамічнай часткі калгаснага кіраўніцтва павінны быць адхілены.

Рэзультаты Лівенскага вопытнага поля паказваюць, што ўвогуле на кожны прапушчаны дзень для ворыва зябі мы трацім каля 10 **кг** зерня з **га**. Барацьба за высокі ўраджай (а мы змагаемся за гэта сур'ёзна!) патрабуе ад нас, каб вытворчасьць зяблевага ворыва была арганізавана зараз-жа пасьля ўборкі ўраджая. Спасылкі на немагчымасьць правядзеньня зяблевага ворыва ў паказаныя тэрміны трэба адкінуць, як апартуністычныя. Без перамаганьня цяжкасьцяй двайнога ўраджая атрымаць нельга. Трэба памятаць таксама, што значна ўзрастаючая тэхнічная ўзброенасьць калгасаў патрабуюць ад іх зусім іншага падыходу да арганізацыі зяблевага ворыва.

Мы павінны з усёй катэгарычнасьцю патрабаваць, каб ворыва на зяб пачыналася зараз-жа пасьля ўборкі культур. Гэта патрабаваньне неабходна прад'явіць кожнаму РКсоду, кожнаму дырэктару МТС, кожнаму аграному, кожнаму праўленьню калгаса. Актыў калгасаў са свайго боку абавязаны дабіцца сваячасовага правядзеньня зяблевага ворыва.

Як практычна павінна ажыцьцяўляцца гэта важнейшая работа? У кожным калгасе праўленьнем яго безадкладна складаецца плян зяблевага ворыва, які ўвязваецца з усімі работамі, праводзімымі ў асеньні пэрыяд. Кожнае праўленьне калгаса абавязана паставіць сабе мэтай—поўнасьцю выканаць плян па зябі ў магчыма раньнія тэрміны. Апрача трактарнага парку, які павінен быць цалкам пераключан на ўздым зябі, праўленьні калгасаў вылучаюць спэцыяльныя конныя брыгады для гэтай работы. Праўленьні калгасаў павінны арганізаваць перакідку цягавай і рабочай сілы на зяб з іншых работ, дзе чаму-небудзь немагчыма вытвараць работы, напрыклад, у дрэннае надвор'е, калі спыняецца малацьба, сяўба і інш. цягавая сіла і калгасьнікі могуць выконваць работу па ўздыму зябі.

У гэтым выпадку пры пэўнай гібкасьці праўленьняў калгасаў можна зяблевае ворыва ажыцьцяўляць без асобых цяжкасьцяй. Сіл і сродкаў у нас хапае, неабходна праявіць толькі арганізаванасьць і ўпартасьць у барацьбе за выкананьне пляна па зябі.

Барацьба за плян зябі павінна праходзіць з такой-жа напружанасьцю, з якой мы вядзем барацьбу за плян сяўбы. Калгасьнікі навучыліся перамагаць на пасеўным фронце і, карыстаючыся гэтым велізарным вопытам, даб'юцца і ўздыма зябі.

Зяблевае ворыва з звычайнага агранамічнага мерапрыемства павінна перарасьці ў абавязковую гаспадарчую работу кожнага калгасу, кожнага калгасьніка.

**Н. Ерафееў.**



Малалетні трактарыст Зьмітрок Майзус, які ведае добра ўсе часткі трактара і можа кіраваць ім (калгас „Чырвонае Забалацьце“, Лепельскага раёна).

# ЧЫМ АРАЦЬ?

Зяблевае ворыва трэба пачынаць з першых дзён уборкі. Гэта патрэбна для пасьпяховага намнажэньня сьвежага перагною, абумоўліваючага трывалую структуру глебы. На няўзораным жа жніўі адбываецца хуткае адміраньне карэньняў і пры позьнім асеньнім ворыве жніўя не застаецца матар'ялу для стварэньня перагноя.

Напомнім, што ў Заходняй Эўропе ворыва на зяб заканчваецца ў адзін дзень з сканчэньнем возкі снапоў. Для гэтага ўборка збожжа там вытвараецца абавязкова ў напрамку будучага ворыва і суслоны ставяцца ў адзін, па магчымасьці, густы рад, каб можна было адначасова з уборкай пачаць ворыва пад зяб.

У час уборкі звычайна стаіць сухое надвор'е, глеба перасыхае і араць пад зяб трэба толькі мелка—на 10—12 см. На мяккіх глебах і пад каласавое збожжа такое зяблевае ворыва павінна лічыцца за правіла.

Араць трэба мелкаворнымі і шыроказахватнымі арудзьдзямі. Тады будзе захавана ўказанае агратэхнічнае правіла і значна зьмягчыцца наглядаемае ў гаспадарцы напружаньне, так, як патрабаваньне на цягавую сілу зьнізіцца прыблізна ўдвое (1,75), параўнаўча з ворывам звычайнымі плугамі.

Такой прыладай, якая падыходзіць да гэтай работы, зьяўляецца пшанічны плуг, які пры „інтэры" 15—30 дае ў гадзіну больш 1 га пахаты і дазваляе абыходзіцца без абслугоўваючага рабочага. Там, дзе гэтых плугоў яшчэ няма, трэба выкарыстаць усе шматлямешныя конныя плугі, пусьціўшы іх таксама ў трактарную сцэпку па некалькі штук. З тыхжа меркаваньняў ня трэба адмаўляцца ўжываць і буксіра, адняўшы ў іх сеяльныя скрынкі.

На землях мяккіх і чыстых, з-пад прапашных, трэба абмяжоўвацца работай лушчыльнікаў. Тыя ж прылады трэба ўжываць і пры вельмі засьмечаных землях, асабліва ў вільготную восень, з тэй аднак розьніцай, каб зараз жа пасьля ўборкі імі вытваралася дробнае лушчаньне з наступным асеньнім зяблівым ворывам.

Што датычыцца ворыва земель цьвёрдых, з-пад траў, то тут патрабуецца магчыма позьняя запашка травянога поля. Выклікаецца гэта ўмовамі разлажэньня пласта, якое пажадана позьнім ворывам затрымаць. Для гэтага травяное поле павінна быць узорана плугам з прадплужнікам (дзёрназдымам). Такое ворыва пасьпяхова праводзіцца ўжо пры глыбіні 15—20 см.

Прыблізна такое-ж ворыва, але больш раньняе, патрабуецца і пад розныя тэхнічныя культуры.

Праф. **Кузьвіцкі.**

# ДЗЬВЕ МЭТЫ

Зяблевае ворыва мае дзьве мэты: першая—барацьба з пустазельлем і другая—захаваньне запаса вады.

Перад зяблевым ворывам неабходна вытварыць мелкае лушчэньне поля зараз-жа пасьля ўборкі ураджаю. Сэнс гэтага мерапрыемства дваякі: паставіць насеньне сорных траў ва ўмовах прарасьліваньня і запасіць у глебе вільгаць позьніх асадкаў, якіх у нас бывае шмат. Пасьля лушчэньня ворыва на зяб магчыма адцягнуць на больш позьні час. Вытваранае пасьля некаторага часу пасьля лушчэньня зяблевае ворыва зьнішчае ўзышоўшае пустазельле. Для барацьбы з асоба злосным пустазельлем—аўсюгом—лушчэньне глебы мае асабліва сур'ёзнае значэньне.

Вельмі часта лушчэньне глебы лічаць лішняй дадатковай работай. Але гэта ня зусім так. Калі лушчэньне выпушчана, то глеба перасыхае і ворыва на зяб пры сухой глебе патрабуе ў 5—7 і нават часам і 10 раз больш цягавых патуг, чым тое-ж ворыва пасьля вытваранага лушчэньня, захоўваючага вільготнасьць глебы.

Ворыва на зяб трэба вытвараць плугам з прадплужнікам. Неабходна ўказаць, што наступная апрацоўка глебы, узоранай плугам без прадплужніка, абыходзіцца амаль у стольusers-жа, у колькі і пахата, і разам з тым прыводзіць глебу ў нягоднае становішча, распыляючы яе.



Брыгада малалетніх калгасьнікаў у калгасе „Чырвонае Забалацьце", Лепельскага раёну, па вывазцы гною на поле. Брыгада паказала ўдарныя тэмпы работы, вывезшы ўвесь калгасны гной на поле за два дні.

# За зімовы пасеў сланэчніка на сілас і насеньне

Практыка перадавых саўгасаў і калгасаў Савецкага саюзу паказала, што ўвядзеньне ў гаспадарку сіласных культур і сіласаваньня зьяўляецца магутным сродкам у барацьбе за магутную кармавую базу, за сацыялістычную рэканструкцыю жывёлагадоўлі.

Культура сіласных расьлін дае мажлівасьць з найменшай затратай сіл і сродкаў у карацейшы час вырашыць праблему сакавітых кармоў, што мае сугуба важнейшае значэньне для малочнай жывёлагадоўлі. Пасеў сілосных расьлін і сіласаваньне даюць мажлівасьць трымаць двайную колькасьць жывёлы пры адной і той-жа кармавой плошчы.

Культура сілосных расьлін ва ўмовах БССР, да некаторай ступені зьяўляецца новай справай, а таму перад намі зараз стаіць пытаньне ауладаць агратэхнікай гэтых расьлін.

Па дадзеным дасьледчых устаноў і некаторых перадавых саўгасаў і калгасаў для БССР адной з лепшых сіласных культур зьяўляецца сланэчнік.

Ауладаньне агратэхнікай гэтай культуры—неадкладная задача калгасаў і саўгасаў. Неабходна вывучыць прыёмы, якія зьвязаны з павялічэньнем ўраджаю расьліннай масы, паляпшэньнем яе якасьці і атрыманьнем насеньня.

Адным з важнейшых агратэхнічных фактараў, які ўплывае на вялічыню ўраджаю і яго якасьць, зьяўляецца правільна выбраны час сяўбы сланэчніку. Практыка даказала, што раньні пасеў больш выгадны, больш устойліў, дае большую расьлінную масу для сіласу і добрай якасьці, чым ад позьняга пасеву.

Больш раньнія тэрміны сяўбы маюць выключнае значэньне ня толькі для атрыманьня высокай расьлінай масы, але і для насеннай культуры сланэчніку. Ва ўмовах БССР сланэчнік на насеньне можа даходзіць толькі ад самых раньніх пасеваў.

Для пасьпяховага правядзеньня севу сланэчніку ў найбольш раньнія тэрміны патрабуе ад вытворчасьці максымальнай напружанасьці ўсіх гаспадарчых мажлівасьцяй. Невыкананьне гэтых умоў часта зьвязана з няўдачамі і з пэўнымі стратамі ў гаспадарцы.

Паколькі ў асеньні пэрыяд напружанасьць з рабочай і цягавай сілай у гаспадарцы меншая, то зьяўляецца неабходным частку веснавых работ перанесьці на восень і пасьля высеву зімовых можна прыступаць да сяўбы сланэчніку.

Катэдрай Кормаздабываньня Бел. Кармавога інстытуту і Горацкай зональнай станцыі малочнай гаспадаркі ўвосень 1931 году такія пасевы сланэчніку былі ўтвораны.

Пры пастаноўцы гэтых досьледаў мелася на ўвазе прасачыць, якія тэрміны асеньняй сяўбы сланэчніку акажуцца найбольш спрыяючымі для перазімоўкі і далейшага разьвіцьця.

Месца для досьледаў была выбрана ў калекцыйным выхавальніку катэдры ў палявых умовах саўгасу № 66 пасьля віка-аўсянай мешанкі.

У пітомніку глеба была ўгноена хлеўным гноем, а ў палявых умовах пад запашку была ўнесена па 2 цнт сернакіслага амонія, тамасаўкі і сельвініту. Апрацоўка вучасткаў была наступная: успашка на 15—17 см, скарадзьба ў 2 сьляды, прадпасеўнае рыхленьне, скарадзьба і радковы пасеў з міжрадзьдзямі ў 50 см.

Сланэчнік высеены з шэрых грызавых гатункаў у норме 30 кг на га. Высеў вытвараўся ў наступныя тэрміны: 1/15-IX; 2/30-IX; 3/15-X.

Першы тэрмін сяўбы пашоў узімку з 10—15 проц. набухшымі зернятамі. Другі і трэці тэрмін сяўбы, пры праверцы ў палове лістападу, перад замаразкамі, ня было заўважана расткоў, але зерняты былі зусім набухшыя.

Зіма гэтага году ва ўмовах БССР была надзвычайна няспрыяючай для перазімоўкі азімых пасеваў і асабліва для сланэчніку (ледзяная скарынка, вымярзаньне, выпраўваньне, вымаканьне і інш.).

Пры першым веснавым абходзе азімых пасеваў сланэчніку, 25 красавіка ўжо былі заўважаны прарослыя расьліны на ўсіх тэрмінах сяўбы. Расткі дасягалі да 5 см. Поле пасьля зімы вышла надзвычайна ўшчыльненым і заплыўшым, асабліва на палявым вучастку саўгасу № 56. На вучастку калекцыйнага выхавальніку, дзе быў большы запас арганічнай матэрыі, фізычны стан глебы быў



Рэзка кукурузы коннай сіласарэзкай у калгасе імя Сталіна, Цярмукоўскага раёну (Паўночны Каўказ).

непараўнальна лепшы. З прычыны лішкаў ападкаў у веснавы пэрыод гэтага году, ня было мажлівасьці даць сваячасовага і нармальнага дагляду за гэтымі пасевамі. Толькі ў палове мая ўдалося ўтварыць першае рыхленьне і прапалку.

Пасьля гэтага расьліны зразу пашлі ў рост і ўжо ў другой палове мая расткі дасягалі 30 **см** велічыні. У палявых умовах сланэчнік ішоў значна слабей, ён быў надта згрызен гракамі і меў няроўныя ўсходы.

З назіраньняў над азімым пасевам сланэчніку можна адзначыць, што больш роўныя і дружныя ўсходы атрымаліся ад самага позьняга пасеву (15/X) у калекцыйным выхавальніку. Больш рэдкім і нераўнамерным пасевам быў пасеў другога і першага тэрміну. Пасеў сланэчніку 15 кастрычніка даў к 1 ліпеня ўжо зусім сфармаваныя карзінкі і нават пачаў красаваць. Утвораны вучот расьліннай масы ў калекцыйным выхавальніку 4 ліпеня ўключаючы і веснавы пасеў, даў такі вынік па сырой расьліннай масе ў **цнт** на **га** (Проба квадр. мэтрам).

| Час сяўбы | Ураджай расьліннай масы ў *цнт* з *га* |
|---|---|
| 15-IX-1931 г. . . . . | 218 |
| 30-IX „ . . . . | 385 |
| 15-X „ . . . . | 458 |
| 8-V-1932 г. . . . . | 220 |

З прычыны вялікай зрэджанасьці і нераўнамернага травастою вучот у палявых умовах не ўтвараўся.

Праз месяц пасьля першага вучоту, г. зн. 4 жніўня намі ўтворан другі куст. Вынік гэтага вучоту прыводзіцца ў ніжэйзьмешчанай табліцы:

| Тэрмін сяўбы | Фаза разьвіцьця | Даўжыня расьліны ў *см* | Вага сырой масы ў цэн. на *га* | Вага сухой масы у цнт. на *га* |
|---|---|---|---|---|
| 15-X-31 г. | Восковая сьпеласьць | 215 | 517,1 | 113,6 |
| 30-IX „ | „ | 200 | 574,4 | 114,2 |
| 15-X „ | Поўная сьпеласьць | 180 | 482,0 | 127,5 |
| 8-V-32 г. | Малочная | 190 | 426,5 | 102,3 |

Раўнаючы вынікі гэтага вучоту на сырой масе з вынікамі вучоту 4-га ліпеня можна заўважыць, што ўраджай першых тэрмінаў сяўбы перагнаў самы позьні пасеў, але на сухой масе застаюцца тыя-ж суадносіны, як і ў першы раз па сырой масе. Больш за ўсё атрымалася сухой масы ад самага позьняга пасеву, менш ад сярэдняга, яшчэ менш ад першага і самы малы ўраджай атрымаўся ад веснавой сяўбы.

Насеньня ад пасева 15 кастрычніка атрымалася ў пераліку з квадр. мэтра 13,2 **цнт** на **га**.

Праведзены досьлед ясна паказвае карысьць асеньніх пасеваў сланэчніку. Пажадана толькі гэтыя пасевы пашырыць ва ўмовах БССР і ўнядрыць іх у сацыялістычную гаспадарку саўгасаў і калгасаў.

На падставе праведзеных досьледаў дазваляем сабе зрабіць такія кароткія папярэднія вывады.

Пасеў сланэчніка, як сіласнай і насеннай культуры ва ўмовах БССР з восені ў поўнай меры мажлівы. Для атрыманьня высокага ўраджаю расьліннай масы неабходна ўтварыць правільную апрацоўку глебы з запраўкай яе арганічнай матэрыяй (пажадана гноем у колькасьці 36 тон на **га**).

Норма высеву павінна быць ня ніжэй як на 30 **кг** на **га**, добра ўсходжага насеньня. Пасеў павінен быць абавязкова радавы, з міжрадзьдзямі ў 50 **см**. Найлепшы тэрмін асеньняй сяўбы сланэчніку трэба лічыць канец верасьня і пачатак кастрычніка.

З восені за сланэчнікам ніякага дагляду непатрэбна.

Вясною, як толькі прасохне глеба, неабходна ўтварыць скарадзьбу і як толькі будуць прыкметны радкі, адразу ўтварыць міжраднае рыхленьне і прапалку.

Калі расьліны дасягнуць 10—15 **см** даўжыні, можна зрабіць прарэджваньне расьлін, пакідаючы ў радку адну расьліну ад другой на 10—15 **см**.

У першай палове чэрвеня робіцца другое рыхленьне і прапалка.

У першай палове ліпеня расьліны ўжо могуць паступіць на загатоўку сіласа.

На насеньне сланэчнік асеньняга пасеву можа быць убран у першай палове жніўня.

У заключэньне адзначым аб крайняй неабходнасьці скарыстаць мажлівасьці, каб ужо сёлетнюю восень у большай колькасьці пунктаў БССР былі праверавы нашы вывады, каб хутчэй унядрыць гэты агратэхнічны прыём у сацыялістычным землеробстве. Для гэтай мэты можна скарыстаць насеньне, якое засталося ад веснавой сяўбы і насеньне сёлетняга ўраджаю.

Пашырэньне азімых пасеваў сланэчніку ў БССР палегчыць забесьпячэньне насенным матар'ялам і ўмацуе кармовую базу сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

**А. Ц. Савельляў,**
**Н. П. Барабанаў.**



Мясцовая канопля, Менская. Рост 2,3 *м.* Ураджай на *га*—валакна—12 *цнт*, зерня—15 *цнт*.

# Арганізавацъ перамогу на фронце сяўбы

## Сваячасовае і добраякаснае правядзеньне асеньняй сяўбы—лепшы адказ ленінградзкім рабочым

Барацьба за бальшавіцкі ўраджай першага году другой пяцігодкі пачынаецца ўжо цяпер, кампаніямі асеньняй сяўбы і зяблівага ворыва. Пасьпяховае выкананьне пляну гэтых кампаній павінна забясьпечыць атрыманьне высокага ўраджаю ў будучым годзе.

Вопыты нашых навукова-дасьледчых устаноў і практыка работы мінулых гадоў даказалі, што асеньняе ворыва дае супроць вясеньняга павялічэньне ўраджаю на 15—20 проц. Акрамя гэтага лушчэньне і зяблівае ворыва зьяўляюцца аднымі з сродкаў барацьбы з засьмечанасьцю нашых палёў пустазельлем, што бязумоўна мае вялікае значэньне для ўраджайнасьці.

У гэтым годзе БССР павінна засеяць 1 мільён 360 тысяч **га** азімых і ўзьняць 1 мільён 500 тысяч **га** зябі. Гэты плян зьяўляецца зусім рэальным, калі ўлічыць тыя вялікія дасягненьні, якія мы маем у галіне рэканструкцыі нашай сельскай гаспадаркі, калі ўлічыць значны процант калектывізаваных гаспадарак і ўзрослую ролю МТС у сельскагаспадарчай вытворчасьці.

### Плян—праграма баявых дзеяньняў

Нягледзячы на неаднаразовыя чоткія і катэгарычныя дырэктывы аб сваячасовым давядзеньні пасеўных плянаў да калгасаў і брыгад, а таксама да заможных элемэнтаў у многіх мясцох пляны ўсё яшчэ ня складзены.

Якую трэба павесьці работу, дзе і з чаго яе пачаць ня ведаюць у калгасах Тураўскага раёну, бо райкалгассаюз і МТС да самага пачатку сяўбы ня здолелі спусьціць пляны калгасам. Зразумела, што актыўнасьць калгасьнікаў у такім выпадку паралізуецца бюракратычнай цеганінай раённых арганізацый. Такія-ж факты зрыву работы дзякуючы несваячасоваму складаньню плянаў сяўбы маюцца і ў саўгасе Буйнічы Магілеўскага раёну.

### Севазварот—гэта эканоміка і палітыка

У справе ўвядзеньня шматпольных севазваротаў многія раёны таксама праявілі апартуністычную бязьдзейнасьць. Газэта „Известия“ яшчэ ў пачатку вясеньняй сяўбы пісала, што значэньне правільнага севазвароту выходзіць далёка за рамкі звычайнага агра-тэхнічнага мерапрыемства. „Правільны севазварот—гэта эканоміка і палітыка“.

У вясеньнюю пасеўкампанію гэтага году праведзена вялікая работа па ўнядрэньні ў саўгасах і калгасах шматпольных севазваротаў на аснове прыкладнай сыстэмы севазваротаў Наркамзему. Асабліва востра ўстала пытаньне цяпер, у часе правядзеньня асеньняй сяўбы. Цяпер жа трэба зрабіць разьбіўку палёў, цяпер-жа прыступіць да ўвядзеньня правільных севазваротаў там, дзе іх няма.

Але ня ўсе раёны скарыстоўваюць поўнасьцю ўсе магчымасьці, якія дае для ўвядзеньня правільных севазваротаў буйная сацыялістычная гаспадарка. Калгасы, і нават некаторыя саўгасы Пухавіцкага раёну ня прыступілі яшчэ да ўвядзеньня шматпольных севазваротаў. Райза матывуе гэта тым, што „не хапае агранамічных сіл для пасылкі ў калгасы, а саўгасы ўзбуйнены“. Зразумела, што гэта зьяўляецца толькі адгаворкай, спасылкай на „аб'ектыўныя“ прычыны. У сапраўднасьці раённыя зямельна-калгасныя органы Пухавіцкага раёну нічога не зрабілі для скарыстаньня агранамічных сіл Зернавой Занальнай станцыі і агратэхнікума, якія знаходзяцца ў Пухавіцкім раёне.

У Бабруйскім раёне з 510 маючыхся ў калгасах плугоў — адрамантавана толькі 485. Яшчэ горш справа ў аднаасобным сэктары. З 2.750 плугоў аднаасобнікі адрамантавалі толькі 2.400. Акрамя гэтага ў раёне маецца яшчэ 4 неадрамантаваных сеялкі і 90 малатарань.

Да справы завозу машын таксама ня ўсюды аднесьліся з належнай увагай. Так, у тым-жа Бабруйскім раёне зроблена лемяхоў з пяці тон жалеза, у той-жа час не зроблена ніводнага адвалу.

Усё гэта паказвае на колькі яшчэ мала зьвяртаюць увагі на галоўнейшыя вучасткі падрыхтоўкі і правядзеньня асеньняй сяўбы і зяблівага ворыва.

### Ад якасьці апрацоўкі глебы залежыць ураджайнасьць

Добрая апрацоўка глебы зьяўляецца галоўным і асноўным патрабаваньнем агратэхнікі; якая зьбясьпечвае разам з другімі агрo мерапрыемствамі, высокую ўраджайнасьць.

Але многія нашыя раённыя і зямельна-калгасныя органы, а за імі саўгасы і калгасы яшчэ не ўсьвядомілі поўнасьцю ролю апрацоўкі глебы для павышэньня ўраджайнасьці.

Вельмі часта можна сустрэцца з такім становішчам, калі калгасы сваячасова не паклапаціліся ўзараць папар, падняць залежы і г. д. У выніку чаго гэтыя калгасы сеюць жыта па аднаворыву, што пагражае зьніжэньнем ураджаю больш чым на 50 проц.

Характэрна, што некаторыя райземаадзелы і райкалгассаюзы ня ведаюць, дзе, у якіх калгасах прымяняецца такая „сыстэма“. Пухавіцкае Райза, напрыклад, ня ведае, што калгасы імя Чарвякова І Энэргія, Шацкага сельсавету праводзяць сяўбу па аднаворыву. Такія ж факты маюцца і ў калгасе імя Якаўлева, Бабруйскага раёну і ў калгасе Бядняк, Гомельскага раёну.

У іншых мясцох, дзе глеба апрацоўваецца сваячасова, маюцца факты дрэннай апрацоўкі (калгас Паланевічы, Луч, камуна імя Сталіна, Дзяржынскага раёну).

Але ў тых мясцох, дзе барацьба за высокі ўраджай пастаўлена ў цэнтры ўвагі, глеба апрацавана належным чынам. Гэта відаць з вопыту калгасу імя 13 годзьдзя Чырвонай арміі, Магілеўскага раёну, дзе заарана звыш пляну **7 га** азімага. Гэтыя калгасы бязумоўна забясьпечылі атрыманьне больш высокага ўраджаю ў параўнаньні з іншымі калгасамі.

## Мінэральным угнаеньням ня месца пад адкосам чыгункі

Зусім злачынныя адносіны праяўляюць некаторыя працаўнікі да скарыстаньня мінэральных угнаеньняў. Пухавіцкі раён плянаваў засеў зялёнага ўгнаеньня ў калгасах так, што Шацкі сельсавет амаль ня мае засеваў лубіну. У той-жа час 9 ці калгасам Шацкага сельсавету ня далі ніводнага кілё мінэральнага ўгнаеньня.

У другіх раёнах мінэральныя ўгнаеньні ляжаць на складах, або зусім ня выкупаюцца з чыгункі. У Вузьдзенскі раён прыбыла 162 тоны ўгнаеньняў, але ў калгасы завезена толькі 99 тон. Такія калгасы, як Ударнік, імя Будзёнага, Свабода і інш. не завезьлі яшчэ ніводнага кілё мінэральных угнаеньняў. Яшчэ горшае становішча ў Рэчыцкім раёне, дзе завезеныя пяць вагонаў угнаеньняў не рэалізуюцца калгасамі.

Інакш, як шкоднай, нельга назваць практыку Стара-Дароскага раёну, дзе мінэральнае ўгнаеньне валяецца на станцыі пад адкрытым небам і размываецца дажджамі, у той час, як у калгасы не завезена яшчэ ні тоны ўгнаеньня. Зрываюцца ў многіх мясцох і важнейшыя мерапрыемствы — вапнаваньне і тарфаваньне глебы.

У Бабруйскім раёне трэба ў гэтым годзе затарфаваць 584 **га** і завапнаваць 618 **га**. Аднак, ні Райза, ні Райкалгассаюз нічога не зрабілі і ня робяць для папулярызацыі гэтага мерапрыемства сярод калгасьнікаў. У выніку—плян ня выконваецца.

Нягледзячы на ўзросшую ролю мінэральнага ўгнаеньня, галоўным відам угнаеньня ў нас яшчэ застаецца натуральны гной. Як-жа ідзе работа па вывазцы і заворваньні гною ў калгасах і саўгасах?

Праверка выявіла, што ў значнай колькасьці калгасаў гной не скарыстоўваецца належным чынам. У калгасе імя Мархлеўскага, Дзяржынскага раёна, гной ляжыць у хлявох ужо на працягу двух-трох год і ня вывозіцца на поле. А калі і вывезьлі частку гною, то не зааралі яго сваячасова, у выніку чаго гной высах і прапаў без карысьці.

Гэтым і падобным калгасам, якія ня турбуюцца аб вывазцы гною і завозу мінэральных угнаеньняў можна паставіць у прыклад перадавыя калгасы Бабруйскага раёна, якія прымянілі мінэральныя ўгнаеньні. Калгас Мяркуры, Варатынскага сельсавету, дзякуючы раньняй апрацоўцы папару і прымяненьню мінэральнага ўгнаеньня з 11—12 цэнтнэраў у мінулым годзе, да 13 **цнт на га** ў гэтым годзе значна павялічылі ўраджай.

У калгасе Зара рэвалюцыі, Кавалеўскага сельсавету побач было засеяна жыта на глебе ўгноенай касьцяной мукой і на няўгноенай глебе. У выніку— угноеная дзялянка — пры аднолькавых умовах дала 11 **цнт з га**, а няўгноеная толькі 8—9 **цнт** ураджаю.

## Поўнасьцю і рацыянальна скарыстаць машыны

Бурна ўзрастаючае машыннае ўзбраеньне сельскай гаспадаркі і значна ўзросшая роля МТС ва ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасьці ставіць ва ўсю шырыню задачу найбольш поўнага і рацыянальнага скарыстаньня трактароў і сельскагаспадарчых машын і адначасова з гэтым патрабуе беражлівых гаспадарскіх адносін да мэханізмаў.

Але ў некаторых калгасах, як напрыклад, у калгасе імя Чарвякова, Шацкага сельсавету, Пухавіцкага раёну, жняярка прастаяла ўсю ўборачную кампанію з-за адсутнасьці звычайнай шасьцярні. У Пухавіцкім раёне такія факты далёка не выключэньне, Райарганізацыі ня прынялі захадаў для забесьпячэньня ўсіх машын раёна запаснымі часткамі.

Ганебныя факты безабразнай работы трактароў мы маем на вучастку № 2 Полацкай МТС. Акрамя нікудышнай апрацоўкі глебы на гэтым вучастку яшчэ і ломяць машыны, не гаворачы ўжо аб тым, што ні пляны, ні нормы ня выконваюцца большасьцю трактарыстаў. У калгасе імя Варашылава (вучастак № 2) МТС павінна была ўзьняць 8 **га** цаліны, а ўзьняла толькі 0,08 (ноль цэлых і восем сотых **га**).

З прычыны адсутнасьці канкрэтнага кіраўніцтва з боку адміністрацыі МТС на вучастку № 2 пануе абязьлічка, маюцца праяўленьні шкодніцтва. Трактарыст Рабухін перарэзаў рамень у машыне для таго, каб зрабіць „дзень адпачынку". Трактарыст Кушын Уладзімер — зламаў трактар, які цяпер патрабуе заводзкага рамонту. Але клясавая пільнасьць кіраўніцтва і прафарганізацыі Полацкай МТС прытуплена. Кушына пасадзілі на другую машыну, замест аддачы яго пад суд.

Гэтым яшчэ не абмяжоўваецца ганебная работа паасобных МТС. Маюцца выпадкі, калі замест дапамогі, МТС, дзякуючы галавацяпскім адносінам кіраўніцтва наносяць яўную матар'яльную шкоду і абслугоўваемым калгасам. Мы маем на ўвазе Полацкую МТС, якая паслала ў калгас Кастрычнік для работ малатарню з зусім некваліфікаваным машыністам. У выніку —малатарня працуе 2—3 гадзіны ў суткі і прымушае прастойваць без працы яшчэ чалавек 20 абслугоўваючага пэрсаналу—калгасьнікаў.

Такому кіраўніцтву машына-трактарнымі станцыямі павінен быць палажан канец. Апартуністы і бюракраты, якія ня ўмеюць і ня хочуць па-бальшавіцку наладзіць абслугоўваньне калгасаў павінны панесьці суровую адказнасьць.

Неабходна шырока разгарнуць масава-палітычную работу сярод усіх работнікаў МТС і ў першую чаргу—трактарыстаў, мабілізуючы іх на выкананьне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам.

Адначасова трэба разгарнуць масавую работу сярод калгасьнікаў, каб не дапускаць такіх фактаў, якія мелі месца ў рабоце тэй-жа Полацкай МТС, калі калгас імя Парыскай камуны ня даў каня для падвозкі гаручага, што выклікала двухдзённы прастой трактара, які працаваў у гэтым калгасе. Старшынь такіх калгасаў трэба прыцягваць да суровай адказнасьці.

Вінаватыя ў такіх ганебных фактах павінны быць безадкладна адданы пад суд.

Машыны не вінаваты ў тым, што яны дрэнна працуюць. Вінаваты людзі.

## Брыгада—асноўнае зьвяно

Аднак, для выпраўленьня ўсіх недахопаў у працы мала адных зараканьняў і прызнаньня памылак. Асноўная прычына ўсіх прарываў і недахопаў у арганізацыі і правядзеньні асеньняй сяўбы крыецца ў адсутнасьці сталых вытворчых брыгад, прымацаваных да пэўных вучасткаў зямлі і маючых у сваім распараджэньні адпаведны інвэнтар. Таму і барацьбу

з указанымі недахопамі трэба перш за ўсё пачынаць з арганізацыі сталых вытворчых брыгад у калгасах.

Калі першая і чацьвертая брыгады калгасу Рассьвет переможца, Жлобінскага раёну ведаюць, што ім трэба засеяць па 60 га, а другая брыгада ведае, што ёй трэба засеяць 70 га на такіх-жа вучастках, і ў залежнасьці ад ураджаю на гэтых вучастках паміж калгасьнікамі будзе разьмеркован ураджай, то брыгады бязумоўна маюць магчымасьці і жаданьня як найхутчэй і найлепш апрацаваць і засеяць свае вучасткі, каб больш атрымаць пры разьмеркаваньні ураджаю. Пакуль што мы яшчэ ў многіх калгасах, зусім ня маем сталых вытворчых брыгад.



Калгасьнік калгаса імя VI райзьезду саветаў, Лепельскага раёна т. Камека Прахор, які працаваў 115 працадзён і атрымаў аванс 160 кг.

Зямельна - калгасныя органы, партарганізацыі і ўся грамадзкасьць павінны ўдзяліць максымальную ўвагу гэтаму вучастку, памятаючы, што перамога калгаснай вытворчасьці арганізуецца ў брыгадзе.

Усю масавую работу трэба пераносьці ў брыгады. У кожнай брыгадзе павінна быць наладжана выданьне брыгаднай насьценгазэты.

У кожнай брыгадзе павінна быць разгорнута агратэхнічная вучоба.

Ні на хвіліну ня трэба забываць, што адзінай формай работы, якая забясьпечыць перамогу зьяўляецца сацспаборніцтва і ўдарніцтва, якое ператварылася ў нашай краіне ў рух мільёнаў. Гэты рух мас трэба арганізаваць і кіраваць ім, тады будуць добрыя вынікі. Там, дзе гэта ўразумелі, там дзе ў рабоце брыгад і калгасаў укараніліся сацыялістычныя мэтады працы—перамога забясьпечана.

Бязумоўна, на шляху наладжваньня пасьпяховай работы маецца шмат перашкод. Клясавы вораг скарыстоўвае нашу агратэхнічную няпісьменнасьць для агітацыі супроць прымяненьня ў рабоце аграмераприемстваў.

Ніяк іначай, як клясава-варожай вылазкай нельга назваць такі факт, калі старшыня калгасу імя Другой бальшавіцкай вясны, Віцебскага раёну, Сьцяпанаў разважае, аб тым, што сеяць трэба толькі „пасьля ўсьпеньня“, у той час, калі сяўбу пара пачынаць значна раней.

Таму безадкладнымі задачамі цяпер зьяўляюцца:

1. Наладжваньне масавай-агратэхнічнай вучобы рабочых саўгасаў, МТС і калгасьнікаў шляхам арганізацыі гуртковага, спэцыялізаванага навучаньня пад лёзунгам: „Кожная вытворчая брыгада—агрогурток або зоотэхнікі, як гэтага патрабуе пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 1-VI аб правядзеньні Усебеларускага агразоатэхнічнага паходу.

2. Абавязковае аўладаньне агразоатэхнікай кіруючымі работнікамі зямельна-калгасных органаў галоўным чынам раённых.

3. Безадкладнае і шырокае разгортваньне масавай работы за ператварэньне ў жыцьцё ўсіх маршрутаў, абвешчанага ЦК КП(б)Б Усебеларускага агратэхнічнага пахода.

Толькі вырашэньне гэтых галоўных задач, толькі апэрацыйная перабудова работы на ходу з улікам маючыхся ў рабоце дасягненьняў і недахопаў можна забясьпечыць перамогу.

**Ул. Цішкевіч**

**А. Турэцкі.**

# Прыклады калгасу „Пралетарская перамога“ ва ўсе калгасы

У 1930 годзе ў самай вялікай вёсцы Слабада, Грыцькаўскага сельсавету арганізаваўся калгас „Пралетарская Перамога“ з лікам 13 гаспадарак. Дзякуючы добрай пастаноўцы масавай работы ўвосень 1930 году ў калгас уліліся яшчэ 39 гаспадарак.

З кожным днём калгас стаў мацнець і паказваць узорныя прыклады працы, станавіцца сапраўды пралетарскай перамогай па вёсцы. Зараз у калгасе налічваецца 100 гаспадарак. Калгас стаў адным з мацнейшых калгасаў Крупшчыны.

У гэтым годзе калгас убраў 118 га азімага збожжа і 336 га яравых у тым ліку 81 га лёну. У вызначаныя тэрміны быў убраны азімы клін і скончана ўборка яравых. Вялася вялікая барацьба са стратамі пры ўборцы. Кожная брыгада сачыла за тым, каб на яе вучастку не засталося ніводнага коласу збожжа, ніводнага клачка сена. У час уборкі паміж брыгадамі было добра разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Калгасьнікі выконвалі і перавыконвалі нормы выпрацоўкі. Брыгада № 2 т. Аляхновіча Цімоха, якая складалася з 18 касцоў, скашвалі ў дзень 9—11 га сенажаці.

Калгасьнік Суман Саўка ў час ачосу лёну перавыконваў нормы выпрацоўкі: замест 9-ці коп ачосваў 15 коп.

Адначасова з правядзеньнем уборкі ўраджаю калгас закончыў абмалот збожжа.

Калгас „Пралетарская перамога“ першы ў раёне выканаў усе віды нарыхтовак поўнасьцю.

Зараз усе брыгады пераключыліся на правядзеньне асеньняй сяўбы.

Гэтыя дасягненьні калгасам дасягнуты дзякуючы ўмеламу і апэрацыйнаму кіраўніцтву праўленьня і мясцовай парт'ячэйкі.

**Р. Дамянікоў.**

# Вопыт партарганізацыі саўгасу „Беларусь“

## Партарганізацыі саўгасаў і калгасаў павінны стаць штурмавіком на калгаснай вытворчасьці

Партыйная ячэйка саўгасу „Беларусь“, Заслаўскага раёну ўсе свае сілы сканцэнтравала на хутчэйшае і лепшае правядзеньне ўборкі ўраджаю.

Усе камуністы былі разьмеркаваны па вучастковых брыгадах. Сярод рабочых саўгасу і калгасьнікаў была праведзена растлумачальная работа аб важнасьці своечасовага правядзеньня ўборкі і барацьбы са стратамі.

У часе абедзеных перапынкаў камуністы праводзілі ў брыгадах, цэхах палітзаняткі з рабочымі саўгасу. На пастановы партыі і ўраду рабочыя саўгасу адказваюць паднаццем вытворчасьці працы, перавыкананьнем вытворчых заданьняў. Першая паляводчая брыгада на чале з брыгадзірам камуністым Лапіцкім Я. перавыконвае заданьні па ўсіх відах работы. Па касьбе замест нормы 0,30 на аднаго касца яна выконвае 0,40—0,45 **га**. Па жніву замест нормы на кожную жатку пры 10-гадзінным рабочым дні—3 **га**, яны выконвалі 3,50 **га** і 4 **га**, замест нормы на адну жатку 10--12 чалавек працавалі 8—10 чалавек. Лепшыя ўдарніцы з брыгады Лапіцкага—Уладыка Манька, Гінтава Кася, Грышчук і інш. Яны заўсёды перавыконваюць нормы выпрацоўкі, за што некалькі разоў былі прэміяваны. Частка рабочых брыгад вылучана і паслана на дапамогу падшэфнаму калгасу „Кім“ у правядзеньні ўборкі. Астатнія брыгады пераключаны на малацьбу. Ячэйка саўгасу „Беларусь“ сыстэматычна працуе з рабочым і калгасным актывам, склікаючы нарады членаў праўленьня калгасу, старшых брыгадзіраў-паляводаў і лепшых ударнікаў, дзе абменьваюцца вопытам работы і прымаюць рашучыя захады да выпраўленьня недахопаў. Спачатку ячэйка налічвала ў сваіх радох толькі каля 10 чалавек. Зараз яна ўзрасла да 20 асоб за кошт лепшых ударнікаў і ўдарніц.



Адзін з лепшых ударнікаў калгасу імя Леніна Аршанскага раёну тав. Кукса Трахім.

Партыйная ячэйка саўгасу „Беларусь“ сапраўды перабудавала сваю работу ў адпаведнасьці з апошнімі пастановамі ЦК. Вопыт барацьбы за вытворчасьць саўгасна-калгаснага будаўніцтва ячэйкі саўгасу „Беларусь“ павінен быць перанесены ва ўсе калгасы, саўгасы і МТС.

**В. Русовіч.**

# Калгасьнікі „Чырвонай Нівы“ паказалі прыклад бальшавіцкай барацьбы

*(Полацкі раён)*

На 8 га верасьня калгас „Чырвовая Ніва“ Куліkоўскага сельсавету скончыў першым па раёне сяўбу азімых на плошчы 47 гэктараў з перавыкананьнем пляну дадзенага райкалгассаюзам на 2 гэктары, сваёй перамогай калгасьнікі абавязаны правільнай расстаноўцы сілы, умеламу скарыстаньню інвэнтару і машын, энтузіязму калгасных брыгад, іх сапраўды ўдарным тэмпам.



Стар. калгасу імя Леніна, Аршанскага р., 25 тысячнік, былы рабочы-чыгуначнік тав. Пугачоў.—Лепшы ўдарнік калгаснай вытворчасьці.

Перад пачаткам сяўбы азімых брыгады прапрацавалі дырэктывы ўраду аб тэрмінах правядзеньня гаспадарчых работ, вынікам гэтага была пастанова калгасьнікаў закончыць сяўбу азімых да 8 верасьня, г. зн. на два дні раней тэрміну ўстаноўленага ўрадам.

З самага пачатку работ, адставала брыгада № 1 брыгадзіра Вышкова П., яе ўзялі на буксір ударнікі брыгады № 2 брыгадзіра Кухаронка Ігната.

Вынікам гэтага было тое, што калгасьнікі стрымалі свае слова, сяўба азімых была закончана 8 верасьня.

Акрамя гэтага калгасам поўнасьцю скончана ўборка сенажаці, азімых і яравых-каласавых. З 16 верасьня калгас „Чырвоная Ніва“ прыступіў да ўборкі бульбы.

**С.**

# Асеньнім апаросам—максымум увагі

Верасень, кастрычнік і часткова лістапад—асеньнія месяцы масавых апаросаў. Асноўная задача, якая стаіць перад сьвінаводнымі саўгасамі і СКТФ—стрэць гэты адказны пэрыяд падрыхтаванымі. Зьмена пагоды на сырую і халодную для парасят факгар вельмі адмоўны. У гэтым годзе да лёзунгу „Падрыхтоўка да зімы“ трэба ўнесьці папраўку — рыхтавацца ня толькі да зімы, але і да восені — пэрыяду дажджоў, холаду і павышанай вільгатнасьці. Галоўныя хваробы, ад якіх гінуць увосень парасяты—прастуда, хваробы лёгкіх (пнэўмонія), паратыф і г. д.

Вынік практыкі мінулых гадоў паказаў, што трэба максымальна палепшыць умовы ўтрыманьня маладняку і дарослых сьвіней у пэрыяд рэзкай зьмены надвор'я: кастрычнік — лістапад. Галоўная гаспадарчая задача—падрыхтаваць да гэтых месяцаў сьвінарнікі так, каб яны адпавядалі ўсім зоагігіенічным запатрабаваньням. Адрамантаваць падлогу, вэнтыляцыю, каналізацыю, кармушкі, выбяліць вапнаю сьцены і столь, аглядзець вокны і нарыхтаваць дастатковую колькасьць падсьцілкі.

Другая ня менш важная задача саўгасаў і СКТФ—падрыхтаваць стада да пераходу на стойлавае ўтрыманьне. Гэта значыць, што тых парасят, якія адсталі ў росьце, худых трэба папраўляць, як мага, зараз, калі яшчэ цёпла, таму што, як паказала практыка нашай сьвінагадоўчай базы ў Малай Сьляпянцы і другіх саўгасах—такіх парасят у пэрыяд асеньняй сырасьці паправіць амаль нельга.

Гэта дапасоўваецца галоўным чынам да парасят ад'ёмышаў і наогул маладняку, якія нядаўна адняты. Як вядома становішча з канцэнтратамі ў саўгасах напружанае і іх адпаведнага асартымэнту ня хапае для нармальнай падкормкі парасят, а таму ўжо зараз для парасят сысуноў і ад'ёмышаў трэба пачаць капаць больш раньнюю бульбу і даваць у вараным выглядзе.

Адначасова максымальна трэба скарыстаць пашы для ўсіх груп сьвіней. Нікому не сакрэт, што некаторыя саўгасы і СТКФ з прычыны адсутнасьці пастухоў незаўсёды сьвіней, асабліва парасят, ганяюць на пашу.

Такім чынам, каб унікнуць адыходу парасят ад'ёмышаў увосень—трэба зараз рэмантаваць і закаляць іх здароўе шляхам лепшага кармленьня: бульбай, здыманым малаком, канцэнтратамі і травой на пашы. Здаровы ўпітаны парасёнак бяз страху стрэне восень і зіму, стане на адкорм ці племянную групу.

Парасяты асеньніх апаросаў заўсёды лепшыя за парасят веснавых апаросаў.

Канадзкая дасьледчая станцыя ў Квэбеке (Амэрыка) прышла да выніку, што з вясеньніх апаросаў выжыла ў сярэднім 6,5 парасят на матку і з асеньніх 8,33; вясеньнія парасяты ў канцы вопытнага адкорму на галаву важылі 93 кг і асеньнія ў сярэднім важылі на 102 кг.

Па дадзеным аддзелу расплоду НДІ Сьвінагадоўлі за тры гады на сьвіньнях розных парод мы маем наступнае:

У 30 дзён ангельскія парасяты

| Сэзон нараджэньня | Колькасьць апаросаў | Колькасьць парасят у памёце | Вага памёта ў кг | Сярэдняя жывая вага парасят у кг |
|---|---|---|---|---|
| V, VI, VII мес. . . . . . . | 43 | 6,93 | 41,91 | 6,04 |
| VIII, IX, X „ . . . . . . | 10 | 7,5 | 40,54 | 5,41 |
| У 60 дзён | | | | |
| V, VI, VII . . . . . . . . | 43 | 6,13 | 71.89 | 11,33 |
| VIII, IX, X . . . . . . . . | 10 | 7,20 | 82,17 | 11,41 |
| У 30 дзён мясцовыя парасяты | | | | |
| V, VI, VII . . . . . . . . | 25 | 7,96 | 44,38 | 5,58 |
| VIII, IX, X . . . . . . . . | 40 | 7,55 | 41,81 | 6,54 |
| У 60 дзён | | | | |
| V, VI, VII . . . . . . . . | 25 | 7,43 | 84,59 | 11,30 |
| VIII, IX, X . . . . . . . . | 40 | 7,12 | 89,02 | 12,50 |

Ня гледзячы на тое, што парасяты веснавых апаросаў атрымлівалі ў сярэднім па 6 літраў малака да ад'ёму, а асеньнія ня больш 3, але ж па якасьці ва ўзросьце 60 дзён яны ня толькі ня ўступаюць парасятам веснавых апаросаў, але лепшыя за іх.

Дадзеныя акрамя гэтага падкрэсьліваюць, што мясцовыя сьвіньні па якасьці даюць ня горшых парасят, а наадварот, лепшых у любы сэзон году. Аналізуючы прыведзеную табліцу трэба адзначыць, што такія вынікі можна атрымаць толькі ў правільна арганізаванай сацыялістычнай гаспадарцы.

Пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 1-IV аб забароне зімовых апаросаў на 2 бліжэйшых гады вынесена не таму, што зімовыя і позьня-асеньнія апаросы рэч немагчымая, а таму, што гэтыя мерапрыемствы патрабуюць надзвычайнай чоткасьці ў працы і арганізаванасьці сьвінасаўгасаў СКТФ.

Зімовыя і асеньнія апаросы навукова зусім абгрунтаваны. Парасяты пры правільным доглядзе і ўтрыманьні ў добра арганізаванай гаспадарцы гадуюцца адкалькава з зімовымі апаросамі.

Асноўная задача—арганізаваць у сацыялістычнай сьвінагадоўлі ў суадпаведнасьці з урадавымі і партыйнымі пастановамі працу, забясьпечыць карм. вую базу і памяшканьні. А паколькі гаспадаркі, спэцыялісты і рабочыя калектывы ў цэлым радзе савецкіх гаспадарак у мінулую восень і зіму прышлі з катастрафічным процантам адыходу маладняку, які ўпіраецца ў неарганізаванасьць і безгаспадарчасьць некаторых саўгасаў—зімовыя апаросы забаронены на 2 гады.

Аднак пастанова ЦК і СНК СССР ад 1-VI абавязвае саўгасы, СКТФ і ў першую чаргу навукова-дасьледчыя ўстановы па сьвінагадоўлі пры даным ўраўні тэхнікі знайсьці такія мэтады вядзеньня гаспадаркі, каб у бліжэйшы час перайсьці на непрарыўныя апаросы на працягу круглага году.

Жывёлагадоўля такая галіна народнай гаспадаркі, якая на справе паказала, што сьвіньня ня мёртвая машына, а жывы арганізм, які надта рэзка рэагуе на бяздушныя і казённыя адносіны да яго.

У сьвінагадоўлі ўпушчанае і недагледжанае раз, вяртаецца назад з вялікімі цяжкасьцямі.

Падводзячы вынікі сказанаму мы зьвяртаем сур'ёзьнейшую ўвагу гаспадарнікаў, спэцыялістаў і сьвінароў на падсьцілку пры асеньніх апаросах і падрыхтоўку памяшканьняў. Падсьцілка павінна быць сухая — галоўным чынам з жытняй саломы. Нарыхтоўваючы салому—пара думаць аб торфу, моху і лісьці для падсьцілу. Рамонт сьвінарнікаў трэба скончыць у бліжэйшыя дні, таму што іх неабходна прасушыць і праветрыць пасьля рамонту.

Маткі зараз ходзяць на пашу і ў саўгасах ня рэдка, яны сваячасова не пераводзяцца на апарос і бываюць выпадкі, што паросяцца сярод халастых матак. Такія недарэчнасьці трэба ўзважыць і з практыкі сьвіна-гаспадар к. За дэкаду да апаросу матак абавязкова выдзеліць з групы, ачысьціць ад гразі, паразытаў і паставіць на апарос.

За гэты перадродавы час залячыць усе драпіны ды іншыя абсцэсы на баках і вымені. Догляд за вымем да гэтага часу чамусьці ня высоўваўся як асобнае пытаньне, якое па сутнасьці ў асноўным рашае ўсё ў разьвіцьці памёта.

Пакольні за апошні час учасьціліся выпадкі захворваньня парасят ад выламаных зубоў—мы зварочваем увагу брыгадзіраў на гэты факт. Калі матка ня вельмі нэрвовая і спакойна корміць парасят без адкусываньня зубоў — такім парасятам можна і ня скусваць зубы.

Апэрацыю па зрэзваньню зубоў можна ўжываць гледзячы па абставінах. Матка нэрвовая, падхватваецца пры сасаньні яе парасятамі — значыць ня вельмі акуратна зрэзаны вострыя зубы.

Асеньнія апаросы рашаюць выкананьне прамфінпляну сьвінагаспадарак у 1932 г. На захаваньне асеньняга прыплоду павінна быць зьвернута галоўная ўвага партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый савецкіх гаспадарак і СТКФ. Толькі мабілізацыя мас наўкол пастаўленай задачы, вылучэньне сьвінара як цэнтральнай фігуры ў сацыялістычнай сьвінагадоўлі, палепшаньне яго матар'яльных і бытавых умоў, паглыбленьне масавай працы забясьпечыць посьпех правядзеньня і падрыхтоўкі да асеньня-зімовых апаросаў.

**М. Змушко.**

# УЛІЧЫЦЬ ВОПЫТ

## Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў немагчыма бяз правільнай арганізацыі працы на жывёлагадоўчых калгасных фэрмах

Мы маем цэлы рад вялікіх жывёлагадоўчых саўгасаў і тысячы калгасна-таварных фэрм. Але яшчэ не на ўсіх фэрмах работа наладжана так, каб яна забясьпечыла поўнае выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў; ня ўсюды творчы энтузіязм работнікаў жывёлагадоўчых фэрм атрымлівае шырокае падтрыманьне, вельмі часта бывае нават наадварот.

Дзесяткі фактаў гавораць аб тым, што дрэнная арганізацыя працы і аплаты ў жывёлагадоўчых фэрмах перашкаджае пасьпяховаму разьвіцьцю жывёлагадоўлі.

У шмат якіх фэрмах зьдзельшчынай лічаць аплату працы калгасьнікаў у залежнасьці ад колькасьці даглядаемых імі галоў жывёлы. Пры такой сыстэме аплаты працы калгасьнік імкнецца абслужыць чым найбольшую колькасьць галоў, зусім не цікавячыся якасьцю выконваемай работы.

У калгасе „Фэрэйн“ (Быхаўскі раён) са 100 кароў, толькі 46 дойных. Каровы стаяць па калені ў гнаі, даглядаюцца дрэнна. А ўсё гэта таму, што ў калгасе няма належнай арганізацыі працы, няма сталых брыгад, пануе абязьлічка, адсутнічае сапраўдная зьдзельшчына. Дзякуючы гэтаму арганізацыйна-гаспадарчае становішча калгасу вельмі слабае. Калгас ня можа справіцца з выкананьнем плянаў.

Гэты факт зусім не зьяўляецца выключэньнем.Ураўнілаўка ў аплаце, адсутнасьць правільнай арганізацыі працы на аснове брыгаднага мэтаду, ігнараваньне 6-ці ўмоў тав. Сталіна вельмі пануе ў шмат якіх калгасах.

Прыведзены прыклад яскрава даводзіць шкоднасьць адсутнасьці правільнай арганізацыі працы і аплаты.

Зьдзельшчына толькі тады даб'ецца павышэньня колькасных і якасных паказчыкаў, калі аплата працы будзе вытварацца ня толькі ў залежнасьці ад колькасьці даглядаемых галоў жывёлы, але і ад якасьці, ад становішча стада, ад прывесаў сьвіней, ад удояў малака, ад выхаду таварнай прадукцыі, ад процанту захаваньня маладняка. Неабходна разам з колькаснымі, улічваць і якасныя паказчыкі работы.

Сьвінафэрма саўгасу „Старая Беліца“, Уваравіцкага раёну, якая ўвяла дасканалы ўлік якасных паказчыкаў работы і аплату ў залежнасьці ад іх, дабілася значных вынікаў.

Лепшы старэйшы сьвінар тав. **Раманаў** паказаў прыклад барацьбы за якасьць. Ён давёў адыход маладняка да двух процантаў. Дабіўся таго, што яго сьвіньні знаходзяцца ў значна лепшым становішчы, чым сьвіньні другіх саўгасаў і калгасаў.

Брыгадзір па злучцы ў гэтай фэрме т. **Жарын**, дабіўся сваячасовай 100 процантнай злучкі добраякаснымі вытворцамі ўсяго матачнага пагалоўя.

А ўсё гэта таму, што на фэрме разам з колькаснымі, улічваюцца і якасныя паказчыкі работы (у залежнасьці ад чаго вытвараецца і аплата); — усё гэта таму, што на фэрме разам з шырока разгорнутымі сацыялістычнымі мэтадамі працы—сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам, наладжан дасканалы ўлік работы: парасяты сыстэматычна ўзважваюцца, сьвіньні пэрыядычна абглядаюцца і г. д.

У шмат якіх калгасах існуе недапушчальная думка, што работа на жывёлагадоўчай фэрме зьяўляецца нізка-сортнай, для якой падыходзіць усякі калгасьнік і таму пасылаюць на работу на жывёлагадоўчыя фэрмы людзей зусім не адпавядаючых гэтаму прызначэньню.

Вынікі ад такой работы відаць з прыкладу калгаса „Новае жыцьцё“, Глускага раёну. Там, на МТКФ пасланы зусім не адпавядаючыя людзі і таму, становішча стада вельмі дрэннае.

Ад ацяліўшыхся 58 кароў, засталося толькі 38 цялят. Астатнія 20 прапалі невядома куды. У выніку бруднага становішча кароўнікаў і вільгаці за два тыдні пала 8 цялят. Удойнасьць кароў недапушчальна нізкая і плян здачы таварнай прадукцыі калгасам пад пагрозай нявыкананьня.

Зусім зразумела, што клясавы вораг тут пасвойму ацэньвае значэньне арганізацыі працы і рознымі мэтадамі імкнецца сарваць правільную арганізацыю працы калгаса.

Наадварот, там, дзе праца на фэрме добра арганізавана, там, дзе ўся работа праводзіцца на аснове брыгаднага мэтаду і сапраўднай зьдзельшчыны, там, дзе работа праводзіцца на аснове 6-ці гістарычных умоў т. Сталіна—мы маем добрае становішча калгасаў: прымяненьне агразоатэхнікі і выкананьне плянавых заданьняў па ўсім галінам гаспадаркі.

Неабходнай умовай правільнай арганізацыі і аплаты працы зьяўляецца дасканалы ўлік. Бяз правільнага ўліку ніякая правільная арганізацыя працы немагчыма, бо калі калгасьніку замест запісі колькасьці і якасьці выкананай работы ў працоўную кніжку заносіцца проста лічбы, ня ўлічваючы якасьці і праробленай работы. Для правільнай расстаноўкі рабсілы і арганізацыі працы неабходна:

1. Замацаваць за фэрмай колькасьць сталых работнікаў, ні ў якім разе не дапускаючы перакідкі работнікаў фэрмы на другія работы;
2. Правесьці строгае разьмеркаваньне абавязкаў усіх членаў брыгады;
3. Ліквідаваць абязьлічку ў доглядзе за жывёлай. Абавязкова трэба прымацаваць кожнага даглядчыка фэрмы да пэўнай колькасьці пагалоўя, каб кожны нёс адказнасьць за сваё пагалоўе і, каб кожная карова, кожная сьвіньня мела свайго даглядчыка;
4. Наладзіць дасканалы ўлік працы, дабіўшыся, каб у кожнага калгасьніка была працоўная кніжка і каб запісі праробленай працы заносіліся ў яе не радзей 1 разу ў пяцідзёнку;
5. Увесьці сапраўдную зьдзельшчыну, вытвараючы аплату работы калгасьнікаў у залежнасьці ня толькі ад колькасьці, але і ад якасьці выкананьня работы.



Аршанскі элеватар на 1 мільён пудоў збожжа

Кожны калгасьнік і кожны работнік фэрмы павінен цьвёрда памятаць, што бяз правільнай арганізацыі працы на жывёлагадоўчых таварных фэрмах, без сапраўднай зьдзельшчыны арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў немагчыма.

**А. Турэцкі.**

# Больш увагі ўборцы насенных карняплодаў!

Цяпер ужо ня прыходзіцца нават даказваць, што караньплоды—добрая рэч. Кожны рабочы саўгасу, кожны калгасьнік пераканаўся на практыцы, што кармленьне жывёлы турнэпсам, буракамі, бручкай, морквай значна павялічвае ўдой малака, робіць добры ўплыў на павялічэньне вагі пры адкорме жывёлы. Нездарма карняплоды атрымалі назву малакагонных кармоў. Карняплоды зімою замяняюць жывёле тую траву, якую яны зьбіраюць улетку на добрай пашы. Бяз сілосу, і карняплодаў нельга атрымліваць узімку высокіх удояў, якія-б забясьпечвалі таннае па сабекаштоўнасьці малако.

У 1930 годзе плошча пад карняплодамі ў адных толькі калгасах была роўна 4.036 га.

У гэтым 1932 годзе калгасамі Беларусі карняплодамі засеяна плошча ў 14.573 га, гэта значыць больш чым у тры з паловай разы ў параўнаньні з 1930 годам. Такое пашырэньне плошчы пад карняплодамі зьяўляецца адным з лепшых паказчыкаў разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Але гэтыя паказчыкі адначасова абавязваюць нас па належнаму зьвярнуць нашу ўвагу на забясьпячэньне сваёй патрэбнасьці насеньнем корняплодаў.

Нават сёлета ў нас насеньня карняплодаў не хапала і асабліва турнэпсу; да апошняга часу частку іх прыходзілася ўвозіць з-за мяжы і ватрачваць вялікія грошы. Такое становішча зразумела зьяўляецца ненормальным. Трэба ўзмацніць рашучую барацьбу за вырошчваньне насеньня карняплодаў самім у саўгасах і калгасах. Справа гэта не такая ўжо цяжкая, як думаюць некаторыя. Трэба толькі кіраўнікам сацыялістычнай гаспадаркі саўгасаў і калгасаў удзяліць патрэбную ўвагу гэтай справе, пазнаёміцца з тэхнікай насеннае справы

прыцягнуць неабходную ўвагу шырокай саўгаснай і калгаснай грамадзкасьці.

Неабходна зараз-жа вызначыць і вырашыць пытаньне, дзе і як той або іншы саўгас, калгас будзе хаваць насеньнікі кораньплодаў. Своечасова трэба мець на ўвазе колькасьць неабходнае рабочай сілы, каб брыгада загадзя ведала, як ёй расставіць неабходную колькасьць людзей, каб забясьпечыць выкапку і выбарку насеньнікаў, хаваць насеньнікі можна ў сутарэньнях, калі яны ёсьць у калгасе ці саўгасе. Сутарэньні павінны быць сухімі і чыстымі, калі магчыма дастаць вапны, то трэба сутарэньне добра прадэзынфэцыраваць рашчынай вапны. У сутарэньнях трэба зрабіць паліцы ў некалькі радоў да самае столі. На гэтыя паліцы, прыгатаваныя для хаваньня, насеньнікі класьці ў рады—па аднаму раду на кожную паліцу. Такія карняплоды як морква і турнэпс лепш укладваць так, каб яны не датыкаліся адны другога, гэта значыць пакідаць паміж кожным коранем невялікія (з палец таўшчыні) прамежкі, засыпаныя сухім пяском.

На працягу ўсяго часу хаваньня карняплодаў трэба сачыць за тэмпэратурай і вэнтыляцыяй у сутарэньнях. Лепшай тэмпэратурай для хаваньня насеньнікаў зьяўляецца тэмпэратура ад 1° да 2° па Рэамюру. Зьяўленьне шэрані на сьценах сутарэньня сьведчыць аб тым, што ў сутарэньне зайшоў мароз і што неабходна зараз-жа ацяпленьне.

Пры адсутнасьці сутарэньняў насеньнікі карняплодаў з вялікім посьпехам можна хаваць у простых ямах ці буртах.

Разьмер ямы і бурта можа быць розны, але найбольш зручным разьмерам трэба лічыць 20—25 мэтраў даўжыні, 1—1½ мэтра шырыні і 1 мэтр глыбіні.

Укладка насеньнікаў буракоў і бручкі ў ямы можа быць дапушчана ў некалькі радоў адно над другім з абавязковым адлучэньнем (засыпкай) рад ад раду зямлёй. Насеньнікі турнэпсу: іх трэба укладваць ня больш 3—5 радоў у яму, пры чым пры закладцы іх, трэба ня толькі аддзяляць рад ад раду невялікім пластом зямлі, але і кожны корань ад кораня неабходна аддзяляць невялікім пластом сухой зямлі таўшчынёю ў палец. Насеньнікі трэба ўкладваць карэньнямі да сярэдзіны ямы.

Пакладзеныя ў яму ці бурты карэньні насеньнікаў ня трэба засыпаць вялікім пластом зямлі, бо ад цяпла корні могуць папрарастаць і загніць.

З часам-жа наступленьня халадоў пласт зямлі трэба павялічваць, а ямы і бурты трэба добра абкласьці тоўстым пластом гною.

Верх ямы ці бурта трэба рабіць нахільным, і навакол іх выкапаць канаву для сьцёку вады. Каб забясьпечыць вэнтыляцыю ў ямах ці ў буртах трэба на адлегласьці 4—5 мэтраў адзін ад другога ўбіваць абвітыя саломаю калы да самага нізу і сант. на 20—30 вышэй ямы ці бурта.

Адборку насеньнікаў трэба рабіць пры добрым надвор'і. Выбарку іх трэба рабіць па магчымасьці акуратней, каб не пашкодзіць корні. Велічыня карэньняў насеньніка павінна быць невялікай, але і не малой; заўважана, што буйныя карэньні горш хаваюцца і насеньне ад іх даюць ня больш сярэдняга памеру. Бацьвіньне ў карэньняў трэба не абрываць, а абавязкова абрэзваць вострым нажом, пакідаючы яго даўжынёй ня больш як на таўшчыню двух пальцаў.

**Аграном В. Круглоў.**

---

**Адказны рэдактар С. МІЦЬКОЎ.**

---



---

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2260. 2.300 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.




На 12 мес. — 24 нумары 3 р.
„ 6 „ — 12 „ р. 1 50 к.
„ 3 „ — 6 „ — 75 к.
„ 1 „ — 2 „ — 25 к.

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ.**

Адрас рэдакцыі часопісу:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ.